659_632.qxd 1/3/2021 8:43 AM Page 1 (3,1)




# Весткі й Паведамленьні

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”

Viestki j Paviedamleńni

№ 1(659)
Студзень 2021 г.



Электронны адрас: viestki@mail.com
P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735





*Цуд на Каляды ўсё ж такі адбыўся! Рыхтуючы перавыданьне кнігі “Дудары Глыбоцкага краю” корпаўся ў старых газэтах і натрапіў на неймаверна цудоўную легенду, якая на адной кароткай старонцы тэксту зьмястоўна, лірычна і прыгожа апавядае, як нараджэньне Божага Дзіцятка зьлілося з нараджэньнем беларускага народу. Тэкст быў надрукаваны ў калядным нумары віленскай газэты “Родны край” 5 студзеня 1934 году. Газэта “Родны край” выходзіла ад 1 студзеня 1933 г. да 29 лістапада 1936 г. – была заходнебеларускай газэтай, органам Таварыства Беларускай Асьветы. Мела асьветніцкі кірунак, адстойвала правы беларусаў у Польшчы. Друкавала гістарычныя матэрыялы. Выдадзена 104 нумары, пасьля чаго выданьне было забаронена польскай пракуратурай. Тэкст легенды падпісаны ініцыяламі М.Ш. – псэўданім Міхася Шчаснага, аднаго з рэдактараў газэты, выхавацеля ў Віленскай беларускай гімназіі, пазьней настаўніка школы ў Тургелях, на пачатку вайны сасланага немцамі на прымусовую работу ў Нямеччыну. Далейшы лёс аўтара мне пакуль невядомы. Так прыгожа пра беларускую дуду ў прозе пісаў толькі ў сваім апавяданьні-пераказе “Дудар” Вацлаў Ластоўскі. Хай гэты цудоўны тэкст вернецца да нас у форме вось такога сымбалічнага каляднага цуду-віншаваньня.*

**Віталь ВОРАНАЎ**

## Беларуская легенда


РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы у месяц.

№ 1 (54) | Вільня, 5-га студзеня 1934 г. | Год 3-ці.

З НОВЫМ ГОДАМ!

Калі на небе заясьнела магутным і асьляпляючым блескам Віфліемская зорка, якая сваім зьяўленьнем кранула не адзін народ, яе сьвятло даляцела і да бедных сяліб – Крывіча, Дрыгвіча і Радзіміча. Першы зь іх нішчыў лясы пад ворную зямлю на абшарах будучага Полацкага княства; другі – паляваў з якойсьці першабытнай дзідай на розную зьвярыну, якую давала паўсоннае Палесьсе; а трэці – цягаўся па разьлеглых смаленскіх раўнінах. Калі заясьнела яркая і прыгожая зорка, штось кранула іх струны паганскай душы. Зацікавіла іх гэта нязвычайнае зьявішча. Мала здольныя да далёкіх падарожжаў, як і іх патомкі, аднак пастанавілі выправіцца ў сьвет, каб чаго даведацца ад людзей. А наўсякі выпадак, каб і сябе не асьмяяць і сваім хатам не зрабіць падрыву, узялі з сабой такія-сякія падаркі. Крывіч запхнуў за пазуху некалькі локцяў найцянейшага палатна і рознакаляровы пояс; Дрыгвіч – напоўніў жбанок залацістым мёдам, якога хапала ў лясных борцях; пад паху скруціў скуру з барчыстага мядзьведзя, а за пояс заткнуў новыя лапці. А Радзіміч узяў вышываны ручнік, некалькі жменяў сушаных яблыкаў і грушак, а таксама дуду.

Глухімі лясамі, ледзь прыкметнымі сьцежкамі дабрылі яны да шырокага гасьцінца і вельмі зьдзівіліся, убачыўшы сябе; бо кожны зь іх думаў, што толькі ён адзін ёсьць на сьвеце. Вось тут яны пазнаёміліся і ў далейшую дарогу пайшлі разам.

Доўга яны ішлі, доўга, аж нарэшце прыйшлі да нязнанага места Віфліема, а на яго прадмесьці ўбачылі шопу, з каторай толькі што выйшлі багатыя каралі.

Вельмі дарагія скарбы ляжалі каля жолаба, у каторым знаходзілася на пляцёнцы з саломы вельмі прыгожае Дзіцятка, не зьвяртаючае някай увагі на дарагія падаркі каралёў.

Нясьмелыя нашыя падарожнікі падыйшлі да жолаба, нізка пакланіліся і з пасьпехам пачалі раскладаць свае скромныя гасьцінцы, але раптам зрабілася ім сорамна, калі ўбачылі дарагія падаркі каралёў. Аднак жа зрабілася дзіва: бо вось, Божае Дзіцятка працягнула ручку да каляровага пояса, а другую да дуды і радасна пачало сьмяяцца. Заўважыла гэта і Маці, прыгожасьці якой дзівіліся падарожныя, і выцягваючы да іх рукі сказала:

– Мае вы беларускія госьці (дзеля таго, што прыбылыя былі ў белым адзеньні і мелі ясныя валасы), шчыра вам дзякую за гасьцінец, які паходзіць ад шчырага сэрца і ад мазольнай рукі. Кажу вам, што не загінуць на вашай зямлі – ані лён залацісты, ані шоўкавая воўна, ані бурштыновы мядок. Ваша душа будзе чыстай, як белае палаценца, жыцьцё так прыгожым, як гэты пояс, а салодкім, як гэты мядок і вясёлым, як гэта дуда.

Адыйшлі з радасьцяй тры падарожнікі, бяручы з сабой на памятку па жменьцы сена, на каторым ляжала Дзіцятка.

659_632.qxd 1/3/2021 8:43 AM Page 3 (1,1)



# “Абы ня Кебіч” (Ліст да сяброў народнай партыі КХП - БНФ)



Нядаўна памёр Кебіч.

У паняволеным грамадзтве, калі на версе сядае чарговы злы тыран, то частка насельніцтва, зьбянтэжаная яго антылюдзкасьцю, пачынае любіць былога, папярэдняга тырана. Так узьнікла любоў да сэрыйнага злачынцы ўсіх злачынцаў Сталіна, да русіфікатара і самадура Машэрава, а ў расейцаў нават да цара Міколкі Крывавага. Ня трэба крыўдаваць, але гэта праява нявольніцкай псыхалёгіі, бо бывае, што тыраны ствараюць тыранію тады, калі людзі хочуць тыранаў.

Кебіч, якога цяпер пачалі хваліць некаторыя сучасьнікі, узгадваныя пад рэжымам лукашызму, вядома ж, быў не тыран, не самадзержац, і нават не самадур, і нават ня вораг Беларусі. Ён быў савецкім прэм’ер-міністрам з халуйскім страхам перад Крамлём і з натурай падпарадкаваньня Маскве.

У залежнасьці ад абставінаў, ён мог заартачыцца, але тут жа сагнуцца перад пагрозай і пакласьці ўсё пад ногі Крамлю – натура залежнага савецкага начальніка, якога зьверху пастаянна трэба было страшыць і кантролю не спускаць. Шмат разоў я быў сьведкам такіх халуйскіх паводзінаў Кебіча і страху перад Масквой, нават у асабістых ягоных дачыненьнях.

Яму падабалася быць прэм’ерам. Яму хацелася мець уладу і кіраваць. Ён быў таемным функцыянэрам савецкіх спэцслужбаў і ўдзельнікам карпаратыўнай намэнклятурнай савецкай мафіі, у якой не іграў рашаючай ролі. У выніку мафія паставіла над краінай новага стаўленьніка, і Кебічу заставалася толькі з штучнай важнасьцю ў мэмуарах сваіх напісаць, як яны з Лукашэнкам рабілі агульную справу, каб не дапусьціць да ўлады Народны Фронт (Пазьняка). І, мауляў, яшчэ невядома, пісаў Кебіч, чый уклад у гэтую іхнюю агульную справу быў “весомее”.

Палітычная віхлястасьць Кебіча была ягонай сутнасьцю. Чалавек-гума. Зь ім можна было дамовіцца, але цяжка было дамоўленае ажыцьцявіць. На любым этапе ён мог цябе “кінуць”. 25 жніўня 1991 году на Сэсіі Незалежнасьці Вярхоўнага Савету, убачыўшы, як напалоханая камуністычная намэнклятура падае і аварыйна ратуе сябе, пагаджаючыся на незалежнасьць ад СССР, Кебіч падтрымаў пазыцыю дэпутатаў Народнага Фронту і незалежнасьць Беларусі. У сьнежні гэтага ж года ён падпісаў Белавежскія пагадненьні аб ліквідацыі СССР. Але пазьней (са зьменай абставінаў) адмовіўся ад свайго подпісу і пачаў казаць пра інтэграцыю з Расеяй.

У 1990-м годзе мы ў парлямэнцкай Апазыцыі БНФ грунтоўна рыхтавалі ініцыятыву па ўвядзеньні беларускіх нацыянальных грошай. Я надрукаваў шэраг артыкулаў па гісторыі беларускага талера, дамовіўся з Кебічам аб падрыхтоўцы ўвядзеньня талера (ён быў “за”) і даў заданьне фронтаўскаму мастаку сябру Сойма БНФ Лявону Бартлаву таемна падрыхтаваць эскізы талераў, згодна пэўнай намэнклятуры вобразаў на банкнотах. (Праз 25 гадоў, дарэчы, гэты мастак, не пасьвечаны ў сутнасьць справы, распавядзе пра сябе цэлую гісторыю і “бочку арыштантаў”.) Эскізы былі зроблены добра, і Кебіч, атрымаўшы ад мяне матэрыялы, урачыста паклаў папку з матэрыяламі пра талеры і з эскізамі грошай ва ўрадавы сэйф.

Неўзабаве сытуацыя перамянілася, акрыяла намэнклятурная рэакцыя, і Кебіч рашуча выступіў супраць увядзеньня беларускіх грошай, зноў стаў арыентавацца на Маскву і прапіхваць увядзеньне ў Беларусі расейскага рубля (“объединение денежных систем”). У 1993 годзе, дзякуючы гэтай дзейнасьці Кебіча, суверэнітэт краіны ўжо вісеў на валаску. Авантура з увядзеньнем расейскага рубля рэальна магла адбыцца. Але на адным з этапаў кебічаўскай здачы Беларусі справу прытрымаў дырэктар Нацыянальнага банку Станіслаў Багданкевіч, які адмовіўся паставіць свой подпіс пад базавымі дакумэнтамі і здачай фінансавай сыстэмы краіны. Справа затармазілася.

Тым часам, каб штурхаць “объединение”, Кебіч стварыў тады антыканстытуцыйны ворган ва ўрадзе – Дзяржаўны сакратарыят, – начале якога паставіў куратара КГБ па Менскай вобласьці Генадзя Данілава, набраў туды групу гэбістаў, аднаму зь іх (Гайдукевічу) выдзеліў каласальныя сродкі і даў заданьне стварыць антыфронтаўскую арганізацыю “Народное движение Белоруссии.” (Яна было фармальна створана і нейкі час бяздарна існавала, пакуль ня скончыліся грошы.)

Курс Кебіча на аб’яднаньне грашовых сыстэм і на інтэграцыю з Расеяй ішоў поўным ходам. Калі б у 1994 годзе прэзыдэнтам стаў Кебіч, пагроза для незалежнасьці краіны ня зьменшала б. Увогуле, амаль што ўся каляніяльная савецкая намэнклятура, што пасьля нацыянальнай рэвалюцыі і дасягненьня Незалежнасьці краіны ацалела пры ўладзе ў Беларусі, была схільная да гандлю сувэрэнітэтам дзяржавы і пагаджалася падпарадкоўвацца Маскве за льготы і танныя энэрганосьбіты.

Тым часам Масква перанакіравала выбарчую авантуру на Лукашэнку, і Кебіч зыйшоў у цень. Новы стаўленьнік працягнуў “дзела Кебіча” і пайшоў далей – зьнішчыў дзяржаўную мяжу з Расеяй, ліквідаваў нацыянальныя дзяржаўныя сымбалі Беларусі, пазачыняў беларускія школы, спаліў беларускія падручнікі і, пахваліўшы Гітлера, распачаў сыстэмнае вынішчэньне Беларускай нацыі, рыхтуючы сабе трамплін скоку ў маскоўскі Крэмль.

У пачатку 90-х гадоў урад Кебіча, насуперак інтарэсам краіны, падтрымаў штучную інфляцыю савецкіх грошай (справакаваную з Масквы), даўшы магчымасьць намэнклятуры абрабаваць народ і эканоміку. Мы, дэпутаты Фронта, патрабавалі тады хутчэй увесьці беларускія грошы, каб спыніць рабаўніцтва народу і краіны. Калі сытуацыя дайшла да крытычнай мяжы, Кебіч запанікаваў. Беларускай валюты ён не хацеў, але кампрамісна пагадзіўся з намі на ўвядзеньне грашовых купонаў і прыняў нашыя прапановы зрабіць купоны з поўнай валютнай абаронай, як сапраўдныя грошы. Так зьявіліся “зайчыкі”, якія прадухілілі крах эканомікі. Рэальна гэта была ўжо валюта, але яна ня мела маральнай вагі і не валодала маральным грашовым аўтарытэтам.

Зазначу яшчэ, што Кебіч прыняў маю прапанову прызначыць адказным за стварэньне грашовых знакаў дэпутата Апазыцыі БНФ Сяргея Слабчанку. Слабчанка арганізаваў і давёў справу стварэньня абароненых купонаў да завяршэньня.

(Дарэчы, для даведкі. Пазьней нам усё ж удалося правесьці праз Вярхоўны Савет пастанову аб стварэньні беларускіх грошай. Праўда, намэнклятура і Шушкевіч не прапусьцілі гістарычнага з часоў ВКЛ назову “талер” і прпанавалі больш старажытную назву з часоў Полацкага Княства – “рубель”. Ім падабалася, што і ў Маскве быў “рубель”. Беларускія грошы былі аддрукаваныя ў Швайцарыі і завезеныя ў падвалы Нацыянальнага банку. У гэты час ва ўладзе зьявіўся Лукашэнка, і ўвод беларускіх грошай быў забаронены. Купюры з Пагоняй, здаецца, потым па яго загаду былі зьнішчаныя. Хаця пра гэта кружыліся таксама іншыя зьвесткі, быццам грошы ацалелі.)

Прытармазіўшы падзеньне краіны ў бездань шляхам увядзеньня абароненых “зайчыкаў”, і, нажыўшыся на інфляцыі (фірма “Пушэ” і т. п.), Кебіч ня стаў разьвіваць далей самастойную фінансавую і эканамічную палітыку краіны (ды й ня ведаў, як тое рабіць), але скіраваўся на Маскву, на расейскую нафту і газ – узамен за свабоду.

*працяг на наступнай бачыне*

659_632.qxd 1/3/2021 8:43 AM Page 3 (3,1)



# Кніга пра Міколу Равенскага

*Мікола Равенскі / Укладанне Лявона Юрэвіча. Мінск: Кнігазбор, 2020. — 164 с.*

Цягам апошніх месяцаў у Беларусі стаў асабліва папулярны рэлігійны гімн "Магутны Божа". Аднак тыя, хто яго сьпявае, даволі часта ня маюць уяўленьня пра кампазытара, які яго напісаў. Мікола Равенскі – "узвышэнец ад музыкі", сябра Ўладзімера Дубоўкі, зь якім разам ствараў першую беларускую опэру "Браніслава", заснавальнік Беларускага студэнцкага хору ў Лювэне на пачатку 1950-х, – пакінуў па сабе багатую творчую спадчыну. Аднак ужо і ў эміграцыйным асяродзьдзі, дзе "Магутны Божа" завяршае традыцыйна набажэнствы ў беларускіх цэрквах і сьпяваецца на сьвецкіх мэрапрыемствах цягам больш як паўстагодзьдзя, памерлы ў Бэльгіі ў 1953 годзе кампазытар не такі ведамы, як некалі. Што ж казаць пра сучасную Беларусь?

Каб выправіць сытуацыю, аднавіць памяць пра Міколу Равенскага, з ініцыятывы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (Нью-Ёрк) і пры падтрымцы Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" пабачыў сьвет зборнік з адпаведнай назвай. Укладальнік – нью-ёрскі архівіст Лявон Юрэвіч – пастараўся зрабіць выданьне блізкім і зразумелым для сёньняшняга шэраговага чытача.

Палымяная прадмова Ганны Севярынец зьвязвае імя кампазытара і ягоны час з тым, што адбываецца ў сучаснай Беларусі. Наступны тэкст Вітаўта Кіпеля дадае эміграцыйнага кантэксту дзейнасьці Равенскага. Асноўныя раздзелы кнігі: "Ён" і "Пра яго" зьмяшчаюць адпаведна тэксты самога кампазытара і ягоных сучасьнікаў. Так, сярод напісанага Равенскім – ягоны жыцьцяпіс, невялікія ўспаміны пра калегу Ўладзімера Тэраўскага, напісаньне опэры "Браніслава", тэкст да гісторыі беларускай опэры агулам, некалькі лістоў да сябры Лявона Савёнка.

Раздзел "Пра яго" склалі нарысы, успаміны, нататкі, прысьвечаныя Міколу Равенскаму і напісаныя ў розныя гады: ад 1920-х (тэкст Уладзімера Дубоўкі) да 2010-х (артыкул Натальлі Гардзіенкі). Зьвяртае на сябе ўвагу вялікі нарыс "Лірнік краіны ветлай" Антона Адамовіча, эсэ і ўспаміны калегі-кампазытара Алеся Карповіча, успаміны студэнтаў – удзельнікаў знакамітага Беларускага хору ў Лювэне Васіля Шчэцькі, Уладзімера Бакуновіча, Зоры і Вітаўта Кіпеляў, і іншых знаёмых і сучасьнікаў Равенскага. Кожны тэкст дадае цікавыя дэталі да вобразу аўтара гімну, раскрывае розныя аспэкты ягонай біяграфіі, творчасьці, характару. Усе ўспаміны, нарысы, артыкулы кнігі пракамэнтаваныя, дзеля зручнасьці пошуку ёсьць іменны паказьнік. Выданьне ілюстраванае рэдкімі архіўнымі здымкамі і дакумэнтамі, а для практычнага выкарыстаньня зробленая ўклейка з нотамі і словамі гімну "Магутны Божа". Хочацца спадзявацца, што зборнік паспрыяе вяртаньню імя Міколы Равенскага ў сучаснае грамадзтва як у Беларусі, гэтак і за яе межамі.

**Я.С.**

## Вайна супраць беларусаў...

*працяг з бачыны 2*

Падначаленая перад Масквой эгаістычная намэнклятурная палітыка, якую ажыцьцяўляў Кебіч, вяла да страты сувэрэнітэту Беларусі. Гэта (як і гэбоўская залежнасьць) яднала яго з Лукашэнкам. Грамадзтва рэзка адмаўляла эгаістычную зладзейскую палітыку Кебіча ў эканоміцы, які цалкам абрабаваў грашовыя зьберажэньні насельніцтва і пагоршыў матэрыяльнае жыцьцё беларусаў. Кліч "абы ня Кебіч" стаў натуральным лёзунгам стыхійнага эмацыйнага супраціву людзей, якія пры адсутнасьці нацыянальнага палітычнага думаньня і вопыту свабоды, вымасьцілі гэтым лёзунгам дарогу ў няволю, пакараўшы нават нашчадкаў.

Людзі тады не парупіліся задумацца, што іх новы кумір "антыкебіч" яшчэ горшы за Кебіча, бо адкрыта пазіцыянаваў сябе ворагам беларускай нацыі і дзяржавы, клічучы ўсіх назад у СССР (якога ўжо не было), яны не разумелі, што гэта шлях у няволю, у варварства і несвабоду. Не разумелі, што бароняччыся ад Масквы, Народны Фронт бараніў ім свабоду, і працу, і вынікі працы, і культуру, і гаспадарства на роднай зямлі.

Нацыянальна ня разьвітае грамадзтва стаіць на месцы і нікуды ня рухаецца. Стагнацыя паўтараецца, пераменаў не адбываецца, бо галоўнае, чаго не ўсьведамляе такое грамадзтва, – гэта прычыны прычын – небясьпекі з Масквы, пагрозы свабодзе, агрэсіі расейскага імпэрыялізму.

Пуцінская крэатура Бабарыкі ёсьць такая ж самая, як і маскоўская крэатура Лукашэнкі (і нават больш небясьпечная). Фантастычная электаральная гастроль невядомай Ціханоўскай ёсьць прыкладам выробленай палітычнай прафанацыі (рэжысэры якой не ў Беларусі). Аднак тое казаць людзям, што ня памятаюць гісторыі і сэнсу слоў "абы ня Кебіч", – ёсьць няўдзячная справа, як і 26 гадоў таму. Але казаць трэба.

**POST SCRIPTUM**

Мушу падкрэсьліваць зноў і зноў важную фармальную ўмову нашай свабоды. Беларусь мусіць вярнуцца да парлямэнтарызму. Пакуль людзі будуць хацець прэзыдэнта – свабоды (у гэтых абставінах) ня будзе. Прытым выбары парлямэнта мусяць адбывацца цяпер толькі па мажарытарнай сыстэме. Катэгарычна не па прапарцыйнай.

Тлумачу. За гады антыбеларускага рэжыму ў краіне амаль зьнішчаны нацыянальны палітычны кляс, разбураныя, зьведзеныя да мінімуму беларускія палітычныя партыі. У гэтых умовах лепш, калі парлямэнт будзе непасрэдна выбіраць сам народ па аднамандатных акругах. Гэтым можна прадухіліць захоп парлямэнту агентурай чужой краіны, якая ў стане (у цяперашніх абставінах) стварыць тут свае фантомныя партыі на замежныя грошы (напрыклад, Газпраму) і напампаваць у наш парлямэнт сваіх крэатур.

Першы парлямэнт пасьля дыктатуры варта выбраць тэрмінам на два гады (каб пазьбегнуць магчымых тупіковых праблемаў). Шлях да гэтага ёсьць дакладны, просты і законны, але першым чынам неабходна любым спосабам (пажадана бяскроўным) ліквідаваць незаконную аўтарытарую ўладу Лукашэнкі і вынікі антыканстытуцыйнага лістападаўскага дзяржаўнага перавароту 1996 году.

Пасьля гэтага вяртаецца дзеяньне законнай Канстытуцыі 1994 году, адбываюцца выбары ў законны аднапалатны 260-асабовы парлямэнт, які прымае папраўку ў Канстытуцыю адносна прэзыдэнцкай опцыі ўлады, зьмяншаючы (альбо ліквідуючы) яе функцыі.

Адраджаецца дзейнасьць нацыянальных палітычных партый і інстытутаў грамадзянскай супольнасьці, адмяняюцца антынародныя лукашысцкія законы і дэкрэты, ствараецца заканадаўства вольнай Беларусі на карысьць людзям, дзеля сацыяльных, культурных каштоўнасьцяў і нацыянальных інтарэсаў.

*20 сьнежань 2020 г.* **Зянон ПАЗЬНЯК**

*заканчэньне на бачыне 4*

659_632.qxd 1/3/2021 8:42 AM Page 1 (1,1)






## Прэзэнтацыя альманаха “БЕЛАРУС” за 2020 г.

адбудзецца **9 студзеня 2021 г.** ў грамадзкай залі сабора сьв. К. Тураўскага па адрасу:

***401 Atlantic Ave***
***Brooklyn, NY 11217***

Пачатак а **5-й** гадзіне вечара.

Альманах “БЕЛАРУС” - адзіны друкаваны ворган і пляцоўка, дзе могуць публікавацца аўтары, што пішуць па-беларуску і жывуць па-за межамі Беларусі.

На імпрэзе выступяць рэдактар і аўтары выданьня, а прысутных будуць чакаць пачастункі і калегаваньне ў сяброўскай атмасфэры, будзе магчымасьць набыць штогадовік па зьніжанаму кошту.

Сябры Згуртаваньня “Пагоня” будуць паінфармаваныя пра наступныя імпрэзы арганізацыі, змогуць аплаціць гадавыя складкі і абнавіць падпіску на інфармацыйны бюлетэнь “Весткі й Паведамленьні”.

***заканчэньне з бачыны 3***

Цяпер зьвярніце ўвагу, што пастаянна кажа прамаскоўская альтэрнатыва так званых “невероятных” (Латушка, гаворачая галава Ціханоўскай і ўся газпрамаўска-эфэсбоўская групоўка). Паводле іхняга пляну і іхняй рыторыкі мусяць быць новыя выбары прэзыдэнта па лукашысцкіх законах і пры лукашысцкай уладзе, потым мусіць адбыцца зьмена законнай Канстытуцыі 1994 году (тое, што рабіў Лукашэнка, галоўнае задача канстытуцыйнай прэпарацыі – зацьвердзіць там лукашысцкую моўную русіфікацыю і спыніць пэрспэктыву беларускага нацыянальнага разьвіцьця). Далей – выбары парлямэнту па прапарцыйнай (гэта значыць па партыйнай) сыстэме.

Прытым усе яны маўчаць аб тым, што калі выбраць прэзыдэнта па лукашысцкай канстытуцыі і законах, то ўся абсалютная ўлада апынецца ў руках новага прэзыдэнта. Пра астатняе тады можна ўжо не гадаць. У такіх абставінах кожная кантраляваная з КГБ і з Масквы кухарка можа стаць больш небясьпечным прэзыдэнтам для існаваньня беларускай дзяржавы, чым калгасьнік з псыхапатыяй. (Ня кажам ужо пра кандыдатаў службістаў, газпрамаўцаў ды кагэбістаў.)

Плян Лукашэнкі чыста азіяцкі і просты, як аглобля – стварыць “дэмакратычны” калектыўны ворган тыпу народнага хурала, дзяржсавета, народнага сходу і т. п., рэфармаваць пад яго сваю незаконную канстытуцыю, надаўшы яму функцыі абсалютнай улады, перанятай ад прэзыдэнта (які застаецца грамаадводам) і начале гэтага хурала паставіць сябе, дабраахвотна адмовіўшыся ад прэзыдэнцтва.

Плян Крамля рафінаваны, гнуткі і ўнівэрсальны накіраваны для дасягненьня адной задачы – поўнага кантролю над уладай ў Беларусі і стварэньня ўмоваў для аншлюсу, анэксіі краіны.

(Беларусам трэба ўясьніць адну нязьменную імпэратыўную праўду, няведаючы яе нельга займацца палітыкай. Праўда ў тым, што маскоўскі плян аб падпарадкаваньні і ліквідацыі Беларусі пэрманэнтны і не залежыць ад сутнасьці і характару ўлады, якая сядзіць і будзе сядзець у Крамлі.)

У залежнасьці ад абставінаў Крэмль гатовы ўратаваць і падтрымаць аслабленага і міжнародна заблакаванага Лукашэнку, які, ратуючыся, змушаны будзе здаць па частачках нацыянальны сувэрэнітэт, нацыянальную маёмасьць і ўсю краіну.

У іншай сытуацыі Масква гатовая таксама сьпіхнуць і нават ліквідаваць, загнанага ў кут Лукашэнку, ды падтрымаць новыя выбары прэзыдэнта ў Беларусі на маскоўскіх умовах, якія забясьпечаць прыход да ўлады новага маскоўскага стаўленьніка (тыпу Бабарыкі, Цапкалы ці нават поўнасьцю павязанай гаворачай галавы Ціханоўскай).

У пэўных абставінах (якія рыхтуюцца з абодвух бакоў) Масква будзе гатовая таксама сесьць за стол перамоваў з Францыяй і Нямеччынай, каб абазначыць сфэры ўплыву і ўмоўны падзел Беларусі.

Усе гэтыя пляны йдуць пакетам на нашых вачах. Выбар за Масквою. За Масквою – пакуль ня зьявіцца на паверхні арганізаваная беларуская нацыянальная палітычная сіла. Яна пазнавальная, бо ў адрозьненьні ад калябарантаў скажа: прэч з Масквой, Беларусь – гэта сьвятое, мы – Нацыя, наша мова – Беларуская.

***З.П.***

## Абвестка

Сходы Згуртаваньня “Пагоня”, якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў і імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:* ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня”** ***Viktar Yedzinovich.***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

**В. Кіпель ....................30**
**А. Курушка ..................30**
**І. Мілеўскі ...................30**
**Л. Місевіч ...................30**
**А. Пранцэвіч ...............30**
**Усім шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас рэдакцыі:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”* ***Viktar Yedzinovich.***